# ВЯСНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК
ДА ГАЗЭТЫ „КАМУНІСТ“.

№ 4 (34) Ліпень 1931 г. № 4 (34)



ЮРКА РУДЗЬКО.

## Павуціна

(Апавяданьне)

—Так... Знача не жадаеш ісьці.. Сама шкадавацьмеш,— цягнуў Саўка гаворку, калупаючы брудны пазногаць вялікага пальца на назе.

—Я толькі гэтак кажу: бяру пябе, бо адзін ня спраўляюся—зямлі гэтулькі... Сама-ж ведаешь—жонка хворая. Ты-б жыла... за дачку. Было-б і есьці і адзець што . З вашай-жа гаспадаркі—хлеба да каляд. Усяроўна на заробкі іцімеш...

Ганна стаяла ля вакна.

Праз маленькую брудную шыбку відаць былі шэрыя хаты—чарэнга калек, з ашматанымі саламянымі стрэхамі.

У крывым канцы ўсё больш беднота. Сядзібы багацеяў у асяродцы вёскі, ціснуцца на плошчы, насунуўшы зухавата чарапічныя брылі на вочы вокнаў.

На ўзгорку іскрыліся агніста, палыхалі бурштынам шыбы.

Сонца заходзіла.

Недзе песьня буяніла, рвала ў шматкі цішынь надвячорку.

«Пэўне каля школы»,—уздумала Ганна,—«сёньня-ж, казаў Мікола, сход моладзі.“

—Як-жа будзе,—цягнуў Саўка,—кажы Ганна.

Увайшла маці нясучы закарэлае карыта. Карыта высьлізнула і глуха чмякнулася аб земляную падлогу.

—Ну, Ганначка, як парашыла?—зьвярнулася маці, абціраючы хвар-

тукам пасечаны драбнюткімі зморшчыкамі, бы сьпечаны, твар.

Ганна адышла ад вакна ў чорную глыбіню хаты.

Саўка, шкрабучы рудую шчаціну барады, углядаўся на яе і маленькія чорныя вочы-сьлівы затойвалі думкі.

Ганна думала:

„Да яго служкай? Павуку ў лапы“.

...І здрыганулася ад пачуцьця агіды, быццам сапраўды адчула дотык лап павучыных...

„Але-ж давядзецца ўсё-ж ісьці на заработкі...Хоць да каго. Не пражывом-жа з гаспадаркі.“

—Падумаю шчэ‘ дзядзька. Мо‘ заўтра адкажу,—у голас праказала Ганна і выбегла з хаты.

* *
*

Гаспадарыў май.

Пеніліся малочным накіпам цьвету сады. Паветра, набраклае пахам цьвецені, разьдзьмувала грудзі, прымушала мацней пульсаваць кроў.

Каля школы, на кучаравым узгорку сваволіў сінявокі бэз.Хапаў у абдымкі зялёных лап, чапляўся за хусткі дзяўчат, зьдзіраў шапкі ў хлапцоў, што гарэзьліва дурэлі, здаганялі адзін аднаго ў зялёным натоўпе кустоў.

Сход моладзі ‘шчэ не пачынаўся.

Таму зьвінеў россыпам маладых сьмех. Мільгацелі ў кустох макавым цьветам кашулі і хусткі.

—Мікола, пачынай сход, а то раздурэлі во, усе кусты паломюць,—падбег, сьціраючы насоўкай пот з пульсуючага чырваньню твару, Улад-ік.

— Не, Міколачка, не, —крыкнула Маня,-а табе вось да-ам!..

Маня пагналася за Уладзікам.

— Не здагоніш!..

Мікола сядзеў на ганку школы, праглядаў газэту.

Правільней не праглядаў; бо дзе тут прагледзіш ў мітусьне,—а мэханічна трымаў і думаў:

„Чаму яна такая? Нават слухаць не жадае. Казаў-жа,—будзе сход... Маці ўсё, ды само жыцьцё заела...“—парашыў Мікола,—„усё-ж трэ‘ прыцягнуць як...Працавалі-б... А мо‘...“

Чыесьці рукі раптам зачынілі вочы. Моцна сьціснулі галаў.

— Ну, не жартуй...Хто-б...

Мікола намагаўся надаць голасу сур‘ёзнасьці.

Высьлізнуў з рук і ўзрадавана ўскочыў...

— Ганка! Вось не чакаў...Ну,—думаў,—ня прыйдзеш! Маці, ці што ‘шчэ перашкодзіць...

— Дома вельмі абрыдла. Ведаеш... Саўка прышоў. Наймае на працу... Не наймае, а за...дачку...Нудна стала. Зьбегла з хаты...

Ганна апусьціўшы галаў церабіла рог хусткі.

— А ты згодна? — запытаўся Мікола, і перад ім праплыў рыжы твар Саўкі, засыпаны гарохам вясяннак, агідныя вочы—гузікі.— За дачку? Думаеш, без карысьці ён?..

— Я ‘шчэ не адказала... Падумаю. Хоць куды дык давядзецца.

— Так... Да Саўкі...

Мікола раптам згубіў вясёласьць і вяла апусьціўся на ганак.

— Да Саўкі знача... А як-жа калгас?..

— Я-б з радасьцю... ды матка...

* * *

Гаспадарка ў Саўкі вялікая. Тры каровы. Коней два. За аднаго з іх — жарабца цёмна-шэрага (англелец чысты) атрымаў дыплём на выстаўжаданьне хутчэй-ба ноч захлынула цяжкім, чорным сном.

— За дачку ўзяў вось,—казаў надвячоркам Саўка, седзючы ў кампаніі, пыхкаючы смачна цыгаркай,-



Поіць цяля.

цы Саўка і павесіў побач з абразамі за шкло.

„Культурны“ гаспадар.

Дробязі-ж—ня зьлічыш. Паспрабуй—дагледзь за ўсім. Накармі, прыбяры. А на полі праца...

Тут і дзень малым здасцца.

Таму заўсёды ў канцы дня зудзіць сьпіна Ганны утомаю, наліваюцца ногі воламам, не падымеш. Адно дагаджаю...Ніколі жыцьця людзкага ня бачыла, а ў мяне як у бога за пазухай. Пашкадаваў нябогу... Да...

— Ото-ж, што і казаць... Калі што кольвечы і дапапожа, дык ўсё-ж паненкай жыцьме...—згаджаліся іншыя.

— Пашэнціла...

—Ганка!—чуўся голас Саўчыхі,—

Што коняй ня поіш?.. Якая пара...

— Ды шчэ з сьвіньнямі не пасьпела. Ото...

— Хутчэй трэ'... Абібочка, што дарма мо' хлеб будзеш есьці? Кажу-ж...

„Колам ужо хлеб гэты стаў, жыцьцё агоркла. Усё мама...“—наплывалі думкі Ганьне.

І вочы безнадзейна сумавалі...

— Ганка, яшчэ не ўхадзілася? Я-ж думала мо' да Лобанаў на музыку пойдзем—гукнула Ганну, падыходзячы да варотцаў, Полька.

— Ідзі адна. Нешта ахвоты ня маю ісьці,—адказала Ганна,—няважаецца...

— Скажу Міколу, хай прыдзе... палячыць,—жартаўліва кінула Полька і пайшла ўздоўж вуліцай.

* * *

Пасьля гарачага дню, напружанай працы, сон моцны - моцны. Цела налітае цяжарам шукае спакою...

Месяц халодным промням заблытаўся ў страсе сенцаў і праз шчыліну ўпаў на ложак Ганны.

Ганна спала.

Коўдра спаўзла на ногі. І месяц цалаваў маладыя дзявочыя грудзі, што вырваліся з-за кашулі. Блішчэла мармурам цела.

Паветра п'яніў бэз...

Цішыня.

Раптам грудзі цяжар здавіў. Чыесьці шурпатыя рукі ўкалолі цела.

Ганна ўскочыла.

Ня пужайсь... Я... ціш... ш... ш...

Гарэлі агнём жывёльным вочы Саўкі.

— Дзядзьк', што робіце... закрычу...

— Ціш... дурная... маўчы-ш-ш... Грошай дам.

— Пусьцеце... А-а-а-га!...

Смуродная далонь, чорная ад бруду сьціснула рот.

— Маўч... падлюга.

— Га-а!

Надрывала апошнія сілы Ганна, рвалася. Смуродная далонь глушыла голас, дыхаць нельга...

Рэшту сілаў сабрала, сударгава рванулася, наводліў моцна ўдарыла.

* * *

Яна стаяла сярод натоўпу жанок ля калодзежу. Сівыя пасмы валасоў выбіліся з-пад анучы, што надзета была за хустку, рассыпаліся на твары...

Ашматкі вопраткі агалялі бруднае цела. Па баку целяпалася торба.

Жабрачкі гэтай ніхто ня ведаў. Вось толькі, калі прыдзе, заўсёды апавядае што—і ўсё новае.

Хрыпатым голасам, стукаючы ў грудзі расхрыстаныя кулаком, яна казала:

— Каб мне да заўтра не дажыць, калі хлушу... Сама бачыла. Напякуць жалеза і на сьпіне кляймо кладуць—пячатку антыхрыставу. І усім калгасьнікам гэтак будуць. Хто пойдзе ў калгас—прадасьць душу антыхрысту... Беражэцеся! Хутка ўжо прыдзе антыхрыст. Хто ўпісаўся ў калгас—загіне, на агні гарэцьме... Ведаю я—хутка канец цярплівасьці боскай...

Гарачым колам згрудзіліся людзі.

Прагна хапалі кожнае слова.

Насцярожліва маўчалі.

У жабрачкі вочы блішчэлі, іскры-

ліся. Сівыя валасы на ветру трапыхалі.

Усім скажэце слова боскае... Сьцеражэцеся антыхрыста, ганеце служхаў ягоных—камуністаў,—хрыпела жабрачка. Потым усхапілася і пабегла аселіцай, нешта мармычучы, трасучы кулаком.

З цяжкімі думкамі, моўчкі разыходзіліся бабы.

* * *

— Ну які я, скажэце, кулак... аспадар, як усе... Каб сказацьаймаю каго, а то-ж сваёй сілай. ы яшчэ бедняком дапамагаю. Вось анну даглядаю... От, абы навалічя. У індывідуальнікі пішуць,—жаіўся Саўка мужчынам, што сабраіся пасядзець на кладцы каля аты надвячоркам.

— Справідлова, крыху крыўдна абе, Сава Ільліч,— згадзіўся сусед ётра,—такі-та гаруеш... Гарбом сё нажыў. Гэта калгасьнікі, бедата, яны...

— Пэўне калгасьнікі, бязштаныя, злосна фыркнуў Саўка,— Мікола сё. Выбралі яны сабе начальніка з парток. Ну, што ён разумее.

—Не, Саўка, пра Міколу ня жуп, зазначыў Хведар,—хоць малады, справу ведае, лепшага старшыні знойдзеш.

— Ото-ж. Пра Міколу няма чаго..

—А ўсё-ж калгас доўга не праве. Распаўзуцца,—ня супыняўся ўка,—як гэта можна галадранцаў, бокаў сабраць і каб рабілі? Над добры бізун трэ'... Бедната гэтая звыкла без парток хадзіць, дык другіх зьдзірае... Нічога, прыь 'шчэ, прасіцьмуць гарнец жа. Ведаю калгасы ўжо...

— А па маёму ў калгасе ўсё-ж можна жыць,—і добра. Гэта-ж гурт, а гуртам—што хацімеш зробіш. Ого, гурт! Гэта—сіла,—супярэчыў Хведар.

— Ат, што казаць дурням! — Саўка нецярпліва плюнуў і пайшоў да хаты.

— Яно калі добра ўсе працавацьмуць, дык у калгасе ня горш будзе.

— Пагледзім, як нашы ўправяцца і наробяць.

— Што нашы, дваццаць гаспадароў толькі... Во, каб усе ўвайшлі!

— Чаму-ж ты ня ідзеш?..

— Я... Што я... Хай усе...

Доўга 'шчэ цягнулі гаворку мужчыны, спрачаліся, бо тэма вельмі гострая, балючая.

Вёска глыбей захуталася коўдрай змроку. Захлынулася сном.

* * *

Міколу вельмі зьдзівіла, што амаль палова калгасьнікаў падала заявы аб выхадзе. Заявы былі напісаны, відаць, насьпех і ўсюль адна прычына: жонка ня хоча быць, а таму не магу разьбіваць сям'і і выходжу.

«Чаму гэта? Тут нешта ёсьць»,—парашыў Мікола.—«Нехта агітаваў ужо... Адна рука ўсімі кіравала... Разгар сяўбы і тут—на табе».

Выхад зусім паслабляў сілы калгасу, мяртвіў працу. Пагутарыўшы з тымі, хто выйсьці жадаў, Мікола таксама анічога не зразумеў. Адказвалі неахвоча і аб адным-жа: жонка не жадае, а пакідаць сям'і ня будзеш-жа.

Мікола парашыў склікаць сход агульны. Высьвятліць становішча.

* * *

— Мікола, чакай,—гукнула Ганна.

Яна сядзела ля сваёй хаты на калодцы. Кусты чарэмхі клалі густую цень і яе здалёк не відаць было.

— А, Ганна!—узрадаваўся Мікола і накіраваўся да яе. — Я ўжо даўно пабачыць хацеў цябе, ды ўсё часу няма.. Сама ведаеш—сяўба. Працы—ліха ведае колькі. Усё-ж —гаспадарка не маленькая.

— Сядай,—запрапанавала Ганна, —пагутарым, я вельмі хацела пабачыць цябе. Нават ісьці думала.

— Мо‘ што здарылася?—трывожна запытаўся Мікола, — ты неяк усхвалявана.

—Вось, — Ганна нэрвова шукала патрэбных слоў,—ведаеш... Саўка мяне выгнаў, «ня трэ‘ больш,—кажа,—за цябе ў індывідуальнікі пападзеш, ды наогул»... Капейкі за працу ня даў... Як жыць... Высмактаў кроў... павук... Ды ‘шчэ... —

І плечы Ганны здрыгануліся, гарачыя сьлёзы апяклі руку Міколы.

— Ганна, ня трэба... Супакойся. Да нас пойдзеш. Разам з табою, любая, працаваць будам... Я ня дам у крыўду... І Мікола прыгарнуў Ганну да грудзей, як дзіцё суцяшаў.

— Слухай, Мікола, — Ганна памалу супакоілася, сабрала валасы, што выбіліся з-пад хусткі, рассыпаліся на твары, назолай лезьлі ў вочы,—слухай, што ўчора было...

Мікола слухаў і вочы іскрыліся помстай, вочы гарэлі агнём. Ганна скончыла. Усхапіўся Мікола, зьмяў шапку і неяк крыпла зарагатаў.

— А-а гады... Ведаю зараз—заявы чыя рука пісала... Ну, нічога —змагацца будам. Хадзем, Ганна, раскажам усім. Свалата, калгас развальваюць... Саўку да адказнасьці прыцягнем... за ўсё. Асекці голаў гадам трэ‘.

І яны закрочылі ў цемру.

* * *

На сход народу прышло шмат. Усе ведалі аб чым будзе гаворка. Ведалі, павінен вырашыцца лёс калгасу: жыцьцё ці?..

Сядзелі моўчкі калгасьнікі на шырокіх лавах пастаўленых уздоўж сьцен. Смакталі цыгаркі. Клубіліся шызыя ахапкі дыму.

Прыйшлі вяскоўцы пацікавіцца, што будзе.

Недзе ў кутку спрачаліся пра
новы падатак, ды каля стала згру-
дзіліся заядлыя ігракі ў шашкі.
Звонка бразгалі кругляшкі аб дошку
Чакалі Міколу.

Жанкі зьбіліся купкай у кутку
перашоптваліся, вялі аднастайну
гутарку пра навіны вясковыя
працу. Недзе за вакном толькі бу
лілі маладыя галасы, пенілася сьме
хам гаворка.

Мікола адчыніў сход, казаў:

— Сёньня ў нас адно пытаньне—
разгляд заяў аб выхадзе. Таварыш
Два месяцы назад арганізаваўся ка
гас, увайшла меншая частка вёс
а зараз—назад. Чаму? Прычыну, ск
жу я, калі вы не жадаеце: вы сп
жаліся кулацкай служкі - жабра
тэй, што...

— Нечага там служкаў выдум
ваць, разглядай заявы,—перабіў н
чы голас з натоўпу жанок.

— Пачакайце з разглядам.
слухаем зараз Ганну Барысавых

потым і разгледзім—працягвај усьміхаючыся Мікола.

І дзівіла ўсіх ягоная вясёласьць.

Да стала падыйшла Ганна сарамліва. Чырвань шчокі заліла, хвалявалася. У руцэ насоўку мяла. Ці-ж жарты—перад сходам казаць. Мёртвая ціш скавала людзей. Ганна казала:

— Я зараз увесь час жыла... працавала ў Саўкі. Ну, вось... Заўчора надвячоркам прыйшла гэтая жабрачка Начавала. Раніцай-жа за сьнеданьнем казала яна Саўку: „За рублёў пяцьдзесят дапамагу табе раскідаць калгас, мне ня першы раз. Ведаю, як дурняў напужаць. Век ня пойдуць“... Я была ў суседняй каморцы... Чула. Супярэчыў Саўка, дзешавей прапанаваў. Нарэшце атрымала яна сорак рублёў і навозам выйшла, каб ня бачылі, ад Саўкі. Пайшла па вёсцы... Вось...

Ганна села на ўслон.

— Ну, таварышы, зразумела здэцца,—разьбіў цішынь Мікола,—бачыце, як гадаўё працуе? У кулацкую павуціну папаліся... А зараз разьбяром заявы! Раскалося ціш на асколкі. Узарвалася хата бурлівым выбухам гаворкі.

— Я сваю заяву аб выхадзе назад бяру,—выкрыкнуў, каб пачулі, Антон, прыціскаючыся да стала.

— І я бяру...

— І я...

— Ня трэба, разглядаць...

— Ня трэба!—падтрымалі галасы.

— Слова дайце!—гукнуў Хведар і зьмяў клёкат кіпучы гаворкі.

Казаў:

— Убачылі мы, як абдурыць нас кулаччо хацела, зноў надзець хамут на шыю нам... Я, таварышы, прашу прыняць мяне ў калгас... Мы гэтак адкажам свалаце!

Доўга шумелі, бурлілі воплескі, пераможна ірвалі сонную цішу вёскі...

— Мне слова...

— Мне...

. . . . . . . . . . . . .

Гэты сход канчаткова закрэсьліў вёску Міжлесьсе: хаты, урослыя ў зямлю, з ашматанымі саламянымі стрэхамі, сьляпыя вокны, заткнутыя лахманамі; межы парослыя дзікім бадыльлем.

Калгас „Шлях Ільліча“ аб‘яднаў 70 гаспадарак.

Калгас „Прамень Камуны“.



СЬЦЯПАН ЛІХАДЗІЕЎСКІ.

# Ну, дзяўчаты, не качай!

Магілеўскім шаўкоўніцам.

Завівайся, мяккі чысты
шоўк віскозны, у маткі.
Абліцоўвае ўрачыстасьць
пульс наш юны, трапяткі.

Разьбяру і адсартую,
па гатунках разлажу.
І пад песьню маладую
вісьне нітак сьпелы жмут.

Поглядам сувора-важным,
весялосьцю, як з пляча,
Брыгадзірка Лёлька кажа:
— „Ну, дзяўчаты, не качай!".

Сартаваць ды сартаваць мы,
сартаваць ды сартаваць.
Падыходзіць майстра Ваця,
весялее ў Ваці твар.

Ну, а шоўк такі прывабны:
а ні рвані, а ні плям.

Наша ўдарная брыгада
Перавыканала плян.

За руплівасьць нашу рады,
рады і за камсамол.
Камсамольскаю брыгадай
заўтра болей 'шчэ дамо.

Не глядзім на млявасьць, стому—
добра з працай балазе.
Сутанец пачне—аўтобус
нас у горад адвязе.

Ноч вітае. У думках буры,
Месяц. Зоры. Шум гальля.
Можа й хлопцы—балагуры
прыдуць сёньня пагуляць.

З пачуцьцём глыбокім, поўным
сваю рупнасьць пранясём.
Будаўнічая бунтоўнасьць
нашай песьні—ва ўнісон!



На ворыве.

А. ЖУКОЎСКІ.

# „Але мы прыйдзем яшчэ і яшчэ раз“...

## (Нарыс).

Раніцою мы ўтрох рушылі на Добысну — „сватаць“ аднаасобнікаў у калгас. Ішлі вясёлыя і ўзбуджаныя. Восіпаў быў упэўнены, што наш паход удасца. А Герцовіч аднаго шкадаваў — што няма з намі ніводнае жанчыны.

Але нам пашчасьціла: у самой Добысьне сустрэлі калгасьніцу — цётку Гарусіху.

— Давайце, цётка, пойдзем з намі,—паклікаў Герцовіч.

Старая, укручаная ў хусты, без пярэчаньня павярнулася і пашла ўсьлед за намі. Праз колькі хвілін пытае:

— Куды-ж пойдзем?

— Зайдзем, цётачка, да некаторых дзядзькоў... наконт калектывізацыі. Раскажам ім пра свой калгас, як жывём, што маем...

Маўчыць цётка, ідзе. Потым загаварыла:

— А я тутака ў аднэй хаце цэльны паўдзёнак высядзела. Усё ўгаварвала...

— Ну, і што?

— А-ат!.. Ні тое, ні другое...

А я павесялеў: добрага кумпаньёна папалі, добры „сват“ будзе з цёткі.

---

Зашлі ў крайнюю хату, да Антона. У хаце адна гаспадыня.

— Добры дзень! Прымайце гасьцей...

Гаспадыня адарвалася ад самапрахі, зьдзіўлена пазірае: што за камісія такая прышла?

— Дзень добры... Толькі-ж частаваць вас няма чым.

— Няважна, — жартуе Герцовіч. Мы людзі не пераборлівыя.

Зашоў сам гаспадар. Мы адразу разьбіваем сілы. Восіпаў і Герцовіч—да Антона, Гарусіха — да гаспадыні, я—пасярод.

Антоніха ціханька пытае:

— Як гэта вы з імі ходзіце?.. Ці то вам так трэба?

— Ну, а як-жа?.. От, ішла сабе, а яны паклікалі... Чаму, думаю, не схадзіць?..

Паміж жанчын завязалася гутарка. Цётка Гарусіха перамагла першае замяшаньне, увашла ў ролю.

— Я толькі адно скажу,—нарасьпеў гаворыць яна. Як я ў горадзе была, ды калі пабачыла ў якой там школе дзеці вучацца, — нічога-б не хацела, каб толькі і нашыя так змаглі. На камбінаце такая школа... Сястрычка, каб ты толькі пабачыла!.. Во такенькія во дзетухны, а яны што хочаш табе зрабяць: і тубарэтку, і столік... Ай-яй, у мяне ажна сэрца там зайшлось... А Хадосься, дык тая ажна заплакала.

— Гэта-ж у горадзе,—пярэчыць гаспадыня. Ці-ж у нас тое будзе?..

— Будзе, галубка, будзе, родная. Калі ўсе разам, у вадну сямейку зьбярэмся—усё будзе...

А ў другім кутку ідзе апрацоўка Антона. Мы ставім пытаньне проста:

— Чаму ты ня ідзеш у калгас? Дрэнна ў нас? Скажы: што дрэнна? Страшыць хто? Скажы: хто страшыць?

Не, ня дрэнна. Ніхто ня скажа, што ў калгасе імя газэты „Камуніст“ дрэнна. Аднак няма чаго і сьпяшацца. Пачакаем, падумаем... Яшчэ пасьпеем.

З новай гарачнасьцю мы пачы-

наем даводзіць, што няма чаго чакаць, што пара ўжо надумацца. Герцовіч лічбамі даводзіць колькі і чаго ў калгасе атрымалі бедьнякі Амельчанка, Славін і другія, ці страціў, уступіўшы ў калгас, былы моцны серадняк Галубоўскі.

Але на дзядзьку, відаць, ня дзейнічаюць ніякія довады. У ім яшчэ моцна сядзяць довады, пачутыя ў другім месцы, і накіраваныя супроць калгасу. Калі было перагаворана ўжо ўсё, аб чым толькі можна гаварыць, Антон сказаў, нібы крыху хістаючыся:

— Ну, то мы з жонкаю абсаветуем, мо' да чаго і прыйдзем...

На вуліцы пераглядваемся. Ну, як, маўляў, здалося?

Дарма, ня трэба страшыцца! Мы пагутарылі толькі адзін раз, а колькі такіх гутарак праведзена ворагамі калектывізацыі? За адзін мах недавер'я і несьвядомасьці не праб'еш, аднак, і капля камень дзяўбе...

———

Наступная хата належыць Міколу Рагінскаму. Гэта разьвіты і талковы чалавек і дзіўна проста, чаму ён яшчэ не ў калгасе. Звычайна такія сьпіраюцца на жонку: жонка ня пускае. Але пра Мікалаеву жонку, здаецца, гэтага ня скажаш. Яна не дурная, пісьменная, пры жаданьні ўгаварыць можна. Абодвы маладыя 'шчэ. Праўда, бацькі вось...

Не пасьпелі мы яшчэ і слова калгас памянуць, як старая засупярэчыла:

— А не, мы ня пойдзем...

— Чаму-ж ня пойдзеце?

У вас, здаецца, адна дачка ўжо ў калгасе. Вы-ж бачыце, як ёй жывецца...

— А няўжо-ж, бачу. І якое-ж нярадаснае бачаньне!

Ажна рукі заламала старая.

— Зайшла я анодысь туды ўжо, да дачкі. Божа мой, божа! Хлявы пустыя-а-а, парасчыняты... А ні кароўкі, а ні жывёлінкі!..

— А патом малако праз усю зіму п'юць,—заўважвае з парогу сын.

У калгасе імя газэты „Камуніст“ усе каровы абагулены. У наступнай хаце Герцовіч запытаўся ў адной з калгасьніц:

— Скажы, Хадосься, ці хацела б ты забраць сваю карову, каб самой даглядаць?

— Навошта яна мне?—замахала рукамі Хадосься. Што я ня бачыла клопату? Кожны дзень даглядзь яе, кожны дзень падой... Цэльны дзень каля аднаго хваста таўчэшся. А корму ня хопіць—едзь,—шукай у сьвеце сена ці саломы. Цяпер я ведаю толькі адну працу, што мне калгас даручыў. А пра абагуленае ўсе разам і думаем.

Жанчыны-калгасьніцы ўжо ўпэўніліся, што толькі калгас іх вызваляе ад ланцугоў гаспадаркі, печы, калыскі, становіць іх у вадзін рад з мужчынай. Вось аднаго клопату—каровак—ужо няма, яны сабраны ў адну вялізарнейшую абору і даглядаюць іх спэцыяльна вылучаныя людзі.

Яслі працуюць пакуль што толькі ўлетку, але недалёкі той час, калі яны будуць адчынены круглы год. Калгас ужо ўшчыт падыходзіць і да адчыненьня агульнай сталоўкі.

— Жанчыну-калгасьніцу пустыя хлявы ня страшаць, а толькі радуюць. Яна ведае, што ў калгаснай аборы стаіць 254 галавы буйной рагатай жывёлы. Яна ведае, што круглы год, штодня калгас дае сотні літраў малака сацыялістычнаму гораду. Яна ведае, што і яе гладыжкі штодня нацэджваюцца малаком, якое развозіць спэцыяльна вылучаны чалавек.

Мікола згодны ісьці ў калгас. Толькі, вось, бацьку з маткай на старасьці год гнявіць ня хоча. Тады мы пачынаем націскаць на старых. Гаворым пра тое, што яны свой век зжылі—сьвету ня бачылі, дык навошта-ж маладым

дарогу завязваць. Ажывіўся бацька:

— Не, не! Я яму дарогі не замінаю. Куды ён—туды і я.

І ўсё-ж такі пад канец гутаркі Расінскія заяўляюць:

— Ці-ж мы адны на вёсцы? Пагаварэце яшчэ з другімі... Як усе, так і мы...

Мы ідзём далей.

---

У школе нядаўна вучні праводзілі кампанію па ўцягненьні бацькоў у калгасы. Вучні склалі сацумовы: я, тата і мама, абяцаю добра вучыцца і быць ва ўсім прыкладным, а вы—не пазьней такога-та числа запішэцеся ў калгас. Справа была новая, амаль ніякай арганізаванай працы сярод бацькоў дзеці да гэтага часу не праводзілі, а тут—на табе, бяры бацьку за каршэнь, ды цягні ў калгас. Многія вучні проста казалі, што нічога ня выйдзе, аднак паспрабаваць усе згадзіліся.

І сапраўды. Для шмат каго гэтая „спроба" скончылася досыць „драматычна"...

— Я паказала паперку маме,—расказвала праз колькі дзён вучаніца Вася,—дык яна за ёмачнік... а я пад караваць...—заключыла яна пад рогат усяе клясы.

— А мне мама калі завярнула адно слоўца два разы,—расказваў Захар'ін,—дык і слухаць нельга было.

Вучань Зарэцкі паперкі з сацумовай бацьку не паказваў. Ён спачатку парашыў зрабіць „глыбокую выведку", загаварыў аб сацумове нібы гэта другія толькі робяць, а ён тут ні пры чым. „Выведка" пацьвердзіла, што ён меў рацыю, калі падыходзіў да справы сьцеражліва. Бацька сказаў так:

— Калі-б ты мне прынёс такую паперку, то я і цябе набіў-бы і паперку-б падраў.

Аднаму вучню нейкі спагадлівы бацька даў такую раду:

— Забірай сваю частку ды ідзі ў той калгаз свой, а я, дзетухна, ужо з лет, дажыву свой век дома.

І толькі аднэй Вользе Клачковай, вучаніцы другое клясы, спроба ўдалася. Бацька ўзяў паперку, уважліва прачытаў і падпісаў. Дадаў яшчэ:

— Вучыся толькі добра, а ў калгас я запішуся.

Вось да гэтага самага Клачкова мы і накіраваліся, вышаўшы ад Расінскага. Тут ужо надзея была самая моцная. Чулі мы, што і сапраўды дзядзька Іван імкнецца ў калгас, але жонка—хворая і рэлігійная (эвангелістка) жанчына замінае яму дарогу.

Трапілі ня ў час: Іваніха мыла падлогу. Але не адступаць-жа. Абкалацілі ногі і на дыбках перайшлі праз хату.

— Ну, чым хваліцца будзеце?—пытае цётка.

А выгляд у яе сапраўды няважны, хмурны такі. Хвароба і нястачы розныя паклалі свой цяжкі адбітак.

— Мы-б хацелі, каб вы чым пахваліліся...

У хату зашоў Даніла—Іванаў брат, калгасьнік. Ён жыве якраз наўпроці. Усьлед за ім прыбегла Хадосься, Данілава жонка, тая самая, з якою Гарусіха ў гарадзкой школе была. Хадосься пачула: пра калгас гамонка ідзе.

— Я-ж з ёю (паказала на Іваніху) штодня сваруся, цягну яе ў калгас, а яна ўсё не дае веры, што там добра будзе.

Даніла да гэтага году быў бедняком вядомым на ўсю Добысну і ваколічныя вёскі. Большую частку году Данілава клець пуставала, хоць ты ў арэнду здавай. Нават мышы перасталі вадзіцца.

Як жыла сям'я з чатырох душ? Хто яго ведае... От, перабіваліся нек з бульбы на хлеб. А, бывала, завядзецца які рубель-другі, ну і гульне тады Даніла з усёю сям'ёй. Чорт яго забірай, рублём жыцьцё ня зьменіш, харчоў на поўны год не накупляеш, дык хай-жа хоць знак будзе, што ён быў.

А цяпер, толькі год прабыўшы ў калгасе, Даніла паважна выкладае брату (і паважнасьць гэтая, адчуваньне сваёй вартасьці і патрэбнасьці ў грамадзе зьявілася толькі цяпер):

— Чым ты можаш пахваліцца? Што ў цябе зьмянілася? Нічога. А я не хвалячыся скажу, што за гэты год зусім зьмяніў сваё жыцьцё. І хлеба, і круп, і малака,—чаго ты толькі хочаш у мяне цяпер ёсьць. А летась ці было ў мяне?

Даніла і сам не прыкмячае, што ня толькі ў гэтым зьмянілася яго жыцьцё. З-за мукі і круп ён яшчэ ня ўбачыў, ці пэўней, не асэнсіў таго новага, што віхрам закруціла яго, Данілу Клачкова, былога бедняка-аднаасобніка, гаспадара без гаспадаркі, самастойнага і вольнага без магчымасьці гэтую „самастойнасьць" і „волю" скарыстаць для пабудовы чалавечага жыцьця. Не асэнсіўшы яшчэ гэтага сягоньня, лічачы галоўным у калгасным жыцьці толькі магчымасьць атрымаць больш хлеба, круп, сала і іншага, Даніла нутром сваім усё-ж такі пачынае разумець, што толькі цяпер, толькі ў буйной, калектыўнай гаспадарцы ён зьяўляецца сапраўдным гаспадаром свайго жыцьця, будаўніком шчасьця агульнага.

Слухаючы брата, Іван згодна ківае галавою. Ён даўно пераконаны. Ён усёй душою ў калгасе. Але што-ж ты паробіш... жонка... Гэта ня тое, што ў Расінскага, які, папраўдзе кажучы, бацькоўскім нежаданьнем прыкрывае сваю ўласную нерашучасьць. Тут справа другая, з хворым фанатычна настроеным чалавекам згаварыцца цяжка.

Даніла сьмяецца з Кузьмы Саўчанкі, які таксама заброў у хату. Кузьма—быў чырвоным партызанам. Цяпер на сходах ён першы агітатар за калектывізацыю. А на справе, — мякка кажучы,—першы апартуніст.

Ён ужо дваццаць разоў запісваўся ў калгас і столькі-ж выходзіў з калгасу. Не на тую дарожку трапіў чалавек, не зразумеў новага і пачаў круціць—муціць, імкнучыся абмінуць гэтае новае, праехаць не зачапіўшыся.

Даніла дастае табаку і гаворыць, зьвяртаючыся да Кузьмы:

— Ня дам табакі, як уродзіць... Годзе ўжо, зьняверыўся...

І нам растлумачвае:

— Я яго ўсё табакаю частую, думаю да калгасу прывабіць, а ён і ня думае.

— Запішуся, запішуся—хітравата сьмяецца Кузьма. Мяне ўжо жонка ганяе, каб запісаўся.

У такой вясёлай гутарцы наша пашыраная брыгада вычарпала амаль ўсе свае довады, факты, прыклады. А Іваніха ўсё мыла мост нібы і ня чула нічога. Парашылі выклікаць яе на гутарку:

— Ну, цётка, што-ж вы нічога ня скажаце? Чакаем вашага слова.

Іваніха выпрасталася. На бледным, змучаным твары і злосьць, і нейкая тупаватая ўпартасьць, і фанатызм.

— Ну, чаго вы да мяне прычапіліся? Чаго вы ад мяне хочаце? Вы мяне расхвалявалі, хворай, што я ўжо гэтай анучкі ў руках ня ўтрымаю...

Мокрая ануча валіцца на мост. Рукі бязмоцна падаюць уздоўж цела. Іваніха, стогнучы, войкаючы, палезла на печ. Іван укрыў яе рызьзём.

Мы маўчым. Усім няёмка. Няёмка і Івану. Ён з пакорнасьцю пазірае сабе пад ногі. Выгляд яго гаворыць: „Ну, што-ж я параблю, браткі? Самі бачыце"...

Нехта мне шэпча на вуха:

— Захварэла... А не пасьпееце вы на вуліцу выйсьці, як яна зноў паздаравее...

Дык, значыцца, інсцэніроўка? Каб толькі пашлі з хаты гэтыя „агэнты д'ябла"—калгасьнікі?... Ну, што-ж... нічога не паробіш.

На гэты раз мы пойдзем.

Але мы прыйдзем яшчэ і

ящчэ раз.

Цёмная жанчына выконвае справу клясавага ворага—кулака. Яна гэта робіць, бо так яна выхавана, бо так яе скалечыла яе старое агіднае жыцьцё. Мы ёй, і другім такім як яна, дапаможам скінуць чмуту. Настойліва і штодзённа мы будзем растлумачваць, што толькі калгасы — адзіная дарога для ўсіх прыгнечаных і пакрыўджаных жыцьцём, для эксплёатуемай большасьці сялянства.

Мы ціхенька, адзін за адным ідзем да дзьвярэй. Праходзім паўз вучаніцу другое клясы Вольгу, якая узялася замяняць маму —выцірае мост. Вольга сумна пазірае на нас: мама ня хоча падпісаць сацумову.

———

Вольгачка! Мама сацумову падпіша. Вопыт лепшага ў Бабруйскім раёне калгасу імя газэты „Камуніст" пераканае яе і іншых такіх мам у тым, што яны памыляліся. Вопыт трынаццаці з паловай мільёнаў сялян, што на сёньняшні дзень знаходзяцца ў калгасах, таксама пакажа ёй правільную дарогу.

Не забывайся толькі на адно:

трэба „цярпліва і настойліва весьці растлумачальную працу сярод аднаасобнікаў, накіраваную да таго, каб пераканаць масы сялян стаць на шлях калектывізацыі", каб пераканаць іх у тым, што „кожны дзень адцяжкі... ўступленьня ў калгасы затрымлівае рост іх дабрабыту, пазбаўляе іх магчымасьці зараз жа карыстацца ўсімі перавагамі буйной арцельнай гаспадаркі" (з пастаноў 6 Усесаюзнага Зьезду Саветаў).

# Узмацнець, загартавацца.

## (Аб творчай дыскусіі ў філіі).

„Творчая дыскусія, якая зараз адбываецца і сьведчыць аб посьпехах і росьце пралетлітаратуры і зьяўляецца праяўленьнем барацьба за чыстату марксысцка-ленінскай лініі, дапамагае пралетлітаратурнаму руху ачысьціцца ад усяго таго, што замінае перабудове і затрымлівае рост пралетлітаратуры. Таксама, як і на іншых вучастках ідэалягічнага фронту, асноўнае бальшавіцкае ядро выходзіць з дыскусіі ящчэ больш моцным і загартаваным, таксама і наша арганізацыя ў цэлым ящчэ больш замацуе, ачысьціць і ўясьніць сваю генэральную лінію, змагаючыся за дыялектыка-матарыялістычны мэтад пралетлітаратуры, за ленінізм у літаратуры".

Так гаворыцца ў лісту РАПП—вядучага атраду ВОАПП (Усесаюзн. Аб'ядн. Асацыяцый Пралет. Пісьменьнікаў)—аб разгортваньні творчай дыскусіі.

Творчая дыскусія ў БелАПП разгарнулася з значным спазьненьнем, што і адзначыў апошні пленум Асацыяцыі. Гэты пленум мабілізаваў увагу ўсёй арганізацыі на практычным вырашэньні чарговых задачаў пралетарскага літаратурнага руху, ён быў пераломным і ў справе разгортваньня творчай дыскусіі.

Іменна пасьля пленуму пытаньне разгортваньня творчай дыскусіі знайшло належны адбітак і ў працы Бабруйскай філіі БелАПП.

Першы вечар творчай дыскусіі распачаўся дакладам сябра філіі Рыгора Лынькова аб творчасьці паэтаў філіі. З-за абмежаванасьці часу даклад на першым вечары скончаны ня быў. Але, па просьбе сходу, слова было дадзена сакратару БелАПП т. Міхасю Лынькову, які ў сваёй прамове адзначыў

усю неабходнасьць для арганізацыі пралетлітаратуры творчай дыскусіі, спыніўся на канкрэтных прыкладах барацьбы напостаўства з ухіленьнямі ад генэральнай лініі пралетлітаратурнага руху. Дакладна абгрунтаваная прамова Міхася Лынькова паслужыла ўдалымі ўводзінамі ў дыскусію, што распачынае філія, вызначыла ёй правільны кірунак.

На другім вечары быў скончаны даклад аб паэзіі філіі, разгарнуліся спрэчкі па дакладзе.

Гаворачы аб Зарыцкім, адным з таленавітых паэтаў усяе БелАПП, дакладчык паказаў яго шлях ад вершаў беспрадметна - лірычных, прыродаапісальных („Рогачеву"), да актуальных, насычаных тэматыкай нашага росту, сацыялістычнага будаўніцтва („Песьня пра малако", „Калгасьнік—увага") Зарыцкі, паказаў надзвычайную чуласьць, здольнасьць перабудавацца, наблізіцца да выкананьня задач, што стаяць перад пралетарскім паэтам. („З цыклю камбінацкае" і да т. п.). Але апошнія вершы Зарыцкага (асабліва „Крэйсэр Эмдэн")—трывожны сыгнал. Паэт залішне захапляецца вобразам, словам, формай,—на шкоду зьместу. Эстэтнічаньне Зарыцкага можа прычыніцца скатваньню яго з пазыцый пралетарскай літаратуры, да якіх ён пасьпяхова набліжаўся.

Блізка да Зарыцкага па тэматыцы, набліжэньні да задачаў пралет-літаратуры стаіць Сяргей Грахоўскі. Ён, узросшы на вёсцы, з пачатку 'шчэ сваёй творчасьці імкнуўся да індустрыяльнай тэматыкі („Турксіб"), але ў вершах яго ных (што зусім зразумела) бракавала канкрэтнасьці, закончанасьці думкі. З часу працы на камбінаце Грахоўскі паказвае творчы рост, ён лепш авалодвае тэматыкай сваіх твораў („Песьня пра мэталь", „Цягнікі пабеглі", „Першы прабег").

Па думцы Р Лынькова, Зарыцкі і Грахоўскі блізка падыйшлі да ператварэньня ў паэтаў пралетарскіх. Палажэньні дакладчыка ня выклікалі спрэчак, яны ў выступленьнях былі толькі дэталізаваны.

Спрэчнасьць, жывы абгавор выклікалі характарыстыкі творчасьці Цімоха Крысько і Яўхіма Кохана.

---

Значнай колькасьцю цытат з вершаў Крысько дакладчык ілюстраваў надзвычайную мастацкасьць, вобразнасьць, умецтва шліфоўкі вершаў. Але амаль тыя-ж цытаты сьведчаць аб клясавай нявыразнасьці ў кірунку творчасьці Крысько, якая ёсьць аб'ектыўна шкодная. Нявыразнымі фармулёўкамі дакладчык ставіў Крысько за межы папутніцтва ў радох БелАПП. Ён не заўважваў перабудовы Крысько нават у „Ваявалі ў полі на прывольлі", у вершы „Ударніку" не знайшоў нічога мастацкага, верш „Скрыпка" залічыў амаль кулацкім.

Кохан, па думцы дакладчыка, прагна імкнуўся да адлюстраваньня ў сваёй творчасьці новай вёскі, эвалюцыя яго заключылася вершам „Рэканструкцыйная песьня", які паказаў, што Кохан вырас у пралетарскага паэта.

Выступіўшы ў спрэчках т. Шынклер паказаў на асноўны недахоп дакладу—разбор твораў (хоць і грунтоўны) паасобных паэтаў, без падагуленьня агульных рысаў, плыняў. У захапленьні, напрыклад, словам ёсьць агульнае ў Зарыцкага і Кохана. Ізноў-жа Крысько і Кохан маюць шмат агульнага ў моўным, вобразным матар'яле, у клясавых вытоках творчасьці. Можна знайсьці агульнае у Зарыцкага і Грахоўскага. Але ў Грахоўскага не хапае таго, чым злоўжывае Зарыцкі—культурнасьці, чаканкі формы.

Па думцы Шынклера, Крысько імпрэсыяніст. У яго творах статычнасьць, поўная адсутнасьць дынамікі, пасыўнасьць, захапленьне вонкавасьцю назіраньняў. У

яго ёсьць своеасаблівае „ячаства“, адрыў ад клясавага змаганьня на вёсцы. Вершы першага пэрыяду яго творчасьці аб‘ектыўна шкодныя. Але нельга адмаўляць факту перабудовы Крысько.

Імпрэсыяніст і Кохан. Прыклад —цытаваныя Лыньковым вершы, нават назвы іх. Крысько перабудоўваецца павольна, ён стаіць на правым крыле папутніцтва ў шэрагах БелАПП. Кохана можна лічыць пралетарска - калгасным паэтам. Коханова „Рэканструкцыйная песьня“—не пралетарскі твор. У ім—мітынговасьць, набор „трэскучых“ слоў, адсутнасьць мастацкай глыбіні. „Ударніку“ Крысько стаіць на мастацкасьці значна вышэй.

Крысько стаў на шлях перабудовы, але ідзе па ім павольна; пасьпяхова перабудоўваецца Кохан,—такава думка іншых таварышоў (Фабрыкант, Гаварушка).

Пра творчасьць Рыгора Суніцы (Лынькова) казаў т. Жукоўскі. На яго думку творчасьць Суніцы па сваёй накіраванасьці проста-супроцьлеглая творчасьці Ц. Крысько, хоць ў іх ёсьць і шмат агульнага. Творы абодвух паэтаў надзвычайна ўдумлівыя, у аснове іх амаль заўсёды ляжаць вялікія ідэі і абагульненьні. Аднак, калі для Крысько „роковым“ пытаньнем зьяўляецца цяжкасьць перамаганьня яго сялянскай ідэалёгіі, то Суніца—наадварот—мучаецца над пытаньнем адносін сацыялістычнага гораду да вёскі („На сконе дзён“). Галоўнай заганай творчасьці Суніцы зьяўляецца тое, што ён за апошнія гады амаль нічога ня піша.

Агульная думка спрэчак можа быць сфармулявана наступнымі радкамі з „Лісту сакратарыяту РАПП“: „Толькі пісьменьнік, які сам удзельнічае ня толькі як мастак, але і як бальшавік, на перадавых пазыцыях пралетарыяту ў схватках клясавай барацьбы, які захоўвае непарыўную сувязь з масамі, здолее адшукаць ключ да мастацкага адлюстраваньня сучаснасьці“.

* * *

Спрэчкі, нажаль, няроўнамерна разьмеркавалі абгавор творчасьці паэтаў. Таму агульнага дакладу аб творчасьці празаікаў парашано было не рабіць. На трэцім вечары абгаворана была творчасьць Данілы Абакшонка. Дакладчык т. Жукоўскі паказаў на творчы рост маладога празаіка, на набліжэньне яго да творчага мэтаду пралетлітаратуры. Спрэчкі праходзілі досыць вяла, бачна была непадрыхтаванасьць сяброў філіі. Значна менш, чым на першых вечарох, было і прысутных. Трэба падкрэсьліць: настаўніцтва, нягледзячы нават на асабістыя запрашэньні, на вечарох „бліскуча“ адсутнічае. Так закончылася крытыка масавай працы філіі і абяцаньне дапамагчы ў працы, што чулі мы ад настаўнікаў на адным з літаратурных вечароў...

На другім вечары заслухана была інфармацыя т. Ш. Гарэліка аб творчасьці яўрэйскай паэтэсы Сары Каган. Малазнаёмая з творчасьцю яе аудыторыя не магла зрабіць заўваг. Даклады аб працы сяброў яўсэкцыі, лічым мы, трэба перанесьці на яўрэйскі літгурток. На чарзе—разгляд творчасьці А. Жукоўскага і Хв. Шынклера, за тым—падагуленьне дыскусіі аб творчасьці філіі.

Д. РЭЛ.

Рэдактар Г. АДАМСОН.

**ЗЬМЕСТ.**

**Проза:** Юрка Рудзько; **Вершы:** Сьцяпан Ліхадзіеўскі; **Нарыс:** А. Жукоўскі; **Артыкул:** Д. Рэл.

Друкарня Белпалiграфаб'ядн